


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

14 верасня 2001 года
№ 37 (334)
Выходзіць па пятніцах

ТУ плюс

## Навіны рэгіёна

### Паляванне на радыяцыю

МАЛАДЗЕЧНА. Найбольш актыўна назапашваюць радыяцыю каўпак кольчаты або “курачка”, махавікі, казлякі, польскі грыб, а таксама некаторыя віды гаварушак. Па апошніх дадзеных, найбольш радыеактыўнымі аказаліся ўсімі любімыя “курачкі”.

Яны перавысілі дапушчальныя ўзроўні ўтрымання радыенуклідаў цэзію ў 5–10 разоў па Маладзечанскім раёне ў Плёсах, Чарчонаве, Хоўхлаве, Заскавічах, па Мядзельскім раёне – у в. Узла, па Вілейскім раёне – у Даманаве, Глінным, Куранцы, Шылавічах, Талуці.

Радыяцыя не знішчаецца вараваннем, а змываецца шматразовым прамываннем вадой. Таму сушка “курачак” недапушчальная. Правесці радыеметрычны кантроль вы можаце ў цэнтры гігіены і эпідэміялогіі бясплатна, маючы пры сабе толькі 0,5 літра грыбоў.

**Ларыса ЧЫРВОННАЯ,**
**загадчыца санітарна-гігіенічнай лабараторыі.**

### Амерыканка ў Камарове

МЯДЗЕЛ. У семінары па развіцці недзяржаўных арганізацый, што прайшоў у Камарове, бралі ўдзел сябры мясцовага аб’яднання «Жанчыны за адраджэнне Нарачанскага краю», студэнткі. Трэнінг праводзіла **Едзі Шэнан** з ЗША. Яна ўпершыню ў Беларусі, пабывала ў некаторых гарадах, але ў Камарове ёй спадабалася найбольш.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Служба быту на даму

ВАЛОЖЫН. У Падбярэзскім і Забрэзскім сельсаветах аднавіла работу раённая служба быту – адкрытыя комплексныя прыёмныя пункты. Яны размешчаныя ў хатах. Вясковыя жыхары могуць атрымаць комплекс бытавых паслуг: продаж трыкатажных вырабаў, рамонт абутку і складанабытавой тэхнікі.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

### На аўдыенцыі ў папы рымскага

МЯДЗЕЛ. Два месяцы правёў у Італіі адзінаццацікласнік з вёскі Дзягілі **Аляксандр Апанасевіч**. Запрасілі яго туды за тое, што заняў трэцяе месца ў арганізаваным Чырвоным касцёлам у Мінску конкурсе, прысвечаным Маці Божай Будслаўскай.

Ён зрабіў абраз заступніцы Беларусі з саломкі. У часе прабывання ў Італіі Аляксандр два разы быў на аўдыенцыі ў папы рымскага Яна Паўла II.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### У раёне шаленства

МАЛАДЗЕЧНА. У вёсцы Вялікае Сяло Палачанскага с/с на тэрыторыі прыватнага домаўладання сабакі разарвалі лісу, у якой лабараторна пацверджанае шаленства. Не выключаны кантакт хворай лісы з іншымі свойскімі жывёламі.

Цэнтр гігіены і эпідэміялогіі раіць пры любых неадэкватных паводзінах жывёл (агрэсіўнасць, адмаўленне ад ежы) звяртацца ў ветэрынарную службу. Людзям, якія мелі ў апошні час кантакт з лісамі (знешне здаровымі), у выніку якога адбылося асліненне, з’явіліся драпіны на скуры, нават нязначныя, неабходна тэрмінова пачаць курс прафілактычных прышчэпак ў лячэбнай установе па месцы жыхарства.

Шаленства – небяспечная хвароба! Вылечыць яе нельга, папярэдзіць пры дапамозе прышчэпак можна.

**Алена КАРАВАЙ, урач-эпідэміёлаг Маладзечанскага РЦГіЭ.**

### Адмена электрычак

У сувязі з правядзеннем пуцявых работ, сёння адмяняюцца электрацягнікі **адпраўленнем з Маладзечна на Мінск у 14.54 і прыбыццём з Мінска ў 14.14.**

### Надвор’е на выхадныя

Субота, 15 верасня

**Мінск**
**11 – 12**°C (уначы)
**19 – 20**°C (удзень)

**Вільня**
**11**°C (уначы)
**21**°C (удзень)

Нядзеля, 16 верасня

**Мінск**
**11 – 13**°C (уначы)
**14 – 19**°C (удзень)

**Вільня**
**13**°C (уначы)
**20**°C (удзень)

# Янка Урублеўскі дома



Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

**— Янка мой, Яначка! – Леанарда Шульга не ведала аб лёсе свайго брата Янкі доўгіх дваццаць сем год. Адзіны раз пасля вайны ён прыязджаў на радзіму толькі ў 1974 годзе. І вось брат і сястра зноў знаходзяць адзін аднаго.**

**Матэрыял «Янка Урублеўскі дома» чытайце на 4-й старонцы.**

## Статыстыка па выбарах у рэгіёне

| | Маладзечанская гарадская акруга | Маладзечанская раённая акруга | Вілейская раённая акруга | Астравецкая раённая акруга | Ашмянская раённая акруга | Валожынская раённая акруга | Мядзельская раённая акруга | Смаргонская раённая акруга |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Усяго ў акрузе**, чал. | 70997 | 36609 | 45541 | 20519 | – | – | 28003 | 42879 |
| Прагаласавала, чал. | 61263 | 31190 | 36423 | 18391 | – | – | 24897 | 36609 |
| | 86,3% | 85,2% | 80% | 89,3% | – | – | 88,9% | 85,4% |
| **С. Гайдукевіч**, чал. | 2168 | 671 | 777 | 288 | – | – | 763 | 805 |
| | 3,54% | 2,15% | 2,1% | 1,57% | – | – | 3% | 2,2% |
| **У. Ганчарык**, чал. | 14897 | 3716 | 6566 | 1560 | – | – | 2781 | 7246 |
| | 24,3% | 11,9% | 18% | 8,5% | – | – | 15,2% | 19,8% |
| **А. Лукашэнка**, чал. | 38311 | 25217 | 26770 | 15608 | – | – | 18673 | 25442 |
| | 62,5% | 81,97% | 73,5% | 85,3% | – | – | 75% | 69,5% |
| **Усяго бюлетэняў**, шт. | 73056 | 37956 | 47220 | 22000 | – | – | – | 42622 |
| Несапраўдных бюлетэняў, шт. | 1988 | 799 | 1081 | 434 | – | – | 745 | 1572 |
| Сапсаваных бюлетэняў, шт. | 161 | 32 | 54 | 29 | – | – | 53 | 72 |
| Нявыкарыстаных бюлетэняў, шт. | 11605 | 6734 | 10741 | 3146 | – | – | – | 5900 |

Узніклі праблемы пры атрыманні патрэбнай інфармацыі ў Мядзеле (у выбарчай камісіі спасылаліся на тое, што яны ўжо далі вынікі ў раёнку, маўляў, там можна даведацца) і Валожыне (там параілі звяртацца... у аблвыканком).

Старшыня Ашмянскай выбарчай камісіі сказаў, што ў яго такіх папер няма. А там, дзе, па яго словах, гэтыя звесткі ёсць, паведамілі, што іх можа сказаць толькі сам старшыня.

**Падрыхтаваў Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ «РГ»-АПЫТАННЕ

## Ці хочуць дзеці ў школу?

**МАЛАДЗЕЧНА. Надыход восені найлепш заўважае моладзь. Каму, як не ёй, шкадаваць пра гарачую пару адпачынку? Каму, як не ёй, ведаць, што змены ў прыродзе адбываюцца не проста так: неадступна набліжаецца і ўжо жудасна навісла “самае страшэннае” – новы навучальны год.**

А можа, усё інакш? Каб не гадаць, не сумнявацца, можна проста правесці апытанне на вуліцах горада.

Асабіста ў мяне атрымалася, што са 100 чалавек (41 юнак і 59 дзяўчат) 92% ні ў якім разе не жадаюць ісці ў школу, каледж, ліцэй, ВНУ; 2% – пайшлі б вучыцца толькі для таго, каб пабачыць сваіх сяброў і ўсяго 4% – сардэчна жадаюць ізноў сесці за парты. Прычым не для таго, каб праседжваць штаны (у чым так часта папракаюць нас настаўнікі), а каб усур’ёз займацца папаўненнем ведаў. 2% рэспандэнтаў са сваімі прыярытэтамі ў гэтай сферы не вызначыліся.

Прыблізна такая ж карціна не толькі ў Маладзечне, а і па ўсім рэгіёне і краіне ў цэлым.

Атрымліваецца, калі б на ўсё была воля дзяцей, то ў школах яшчэ доўга стаяла б нерухомая цішыня. Але, на жаль ці на шчасце, моладзі ніяк не пазбегнуць Дня ведаў і чарговага года вучобы.

**Кацярына КЛЯМЯЦІЧ.**

# Нарач у Internet

**МЯДЗЕЛ. Матэрыялаў пра Нарач у глабальнай камп'ютэрнай сетцы хапае. Натуральна, большасць з іх прысвечаная турызму: прапановы турфірмаў, уражанні тых, хто наведаў гэты край.**

Трэці год збіраюцца на Нарачы аматары віндсерфінгу, праводзяць тут свае летняе першынство:

– Возера Нарач любіць памучаць серфераў: возьме і «выключыць» вецер у самы разгар гонак, а потым «уключыць», калі дошкі ўжо складзеныя. Але серферы ўсё даруюць чароўнаму возеру, бо ведаюць, якімі файнымі шкваламі можа яно адарыць.

Летась возера выбралі для правядзення свайго семінара эзатэрыкі. Адзін з маскоўскіх аматараў тых ведаў, што недаступныя для непасвечаных у містычныя навукі людзей, піша:

– Рытмы вялікага горада тут падаюцца чымсьці нерэальным. Душа ў гэтай атмасферы ачышчаецца ад інфармацыйнага смогу, а лёгкія напаўняюцца цудатворным паветрам.

Салідарны з ім і англійскі інжынер, для якога выезд на прыроду стаў самым запамінальным момантам паездкі ў Беларусь:

– Возера Нарач, прыгожыя краявіды, гарэлка, сяброўская атмасфера – усё цудоўна. Вось толькі камароў зашмат.

Відаць, хвалюе людзей і такое пытанне: «Як там жыллё зняць?» Нават у адным з чатаў абмяркоўваюць. Нехта Санёк з Мінска просіць на гэты конт парады. Ахвочых дапамагчы яму шмат. Найлепшая парада ў Славы:

– Ды спыніся ля першага магазіна ў Мядзеле, там табе адрасы і дадуць.

Я рады за Санька: пасля дапамогі ён знайшоў жыллё за адну хвіліну і адпачыў нішто сабе. Толькі гаворыць, што «сервіс жадае быць лепшым».

Але, пэўна, наймаў ён не катэдж, які, прыкладам, прапануюць да продажу на адным з хутароў праз Internet. Дом у два паверхі, з ацяпленнем, мармуровая падлога, французскі камін, спадарожнікавае тэлебачанне. А яшчэ ўсе прыгажосці беларускай глыбінкі, калі нават ранкам «можна ўбачыць зайцоў, што скачуць у двары». Заманлівая прапанова. За 80 тысяч долараў.



Нарачанскія азёры са спадарожніка. Здымак NASA.



Карціна «Дарога на Нарач». Здымкі з Internet.

Хапае ў Internet і фотаздымкаў возера. Збольшага, аматарскіх, накшталт «Я на Нарачы». А, бадай, найцікавейшы здымак Нарачы ўзімку са спадарожніка.

Апроч фотаздымкаў, варта палюбавацца і на карціну, датычную возера. Называецца яна «Дарога на Нарач», аўтар – Іосіф Пучынскі. Мастак нарадзіўся на Беларусі, а ў 1984 эміграваў у Амерыку. Карціну можна і купіць за 1200 долараў.

Другое па папулярнасці месца пасля рэкламавання і апісання прыгажосці Нарачы займае тэма навуковага даследавання возера.

На трэцім – падзеі першай сусветнай вайны ў нашым рэгіёне. Якраз сёлета было 85 год ад пачатку Нарачанскай аперацыі. Тады, каб адцягнуць вялікія сілы немцаў з французскага фронту, было распачатае непадрыхтаванае наступленне на Беларусі. Загінула каля 80 тысячаў рускіх салдатаў.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ **БЯСПЕКА РУХУ**

## Запомніце сітуацыі

**МАЛАДЗЕЧНА. Сёлета ў раёне зарэгістравана 16 дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам дзяцей, дзе яны атрымалі раненні.**

Інспектар ДАІ **Уладзімір Лукашык** лічыць, што ў дарожнай адукацыі дзяцей патрэбны сумесны ўдзел выхавальнікаў дзіцячых садкоў, настаўнікаў школ і бацькоў.

Найбольш перспектыўным, на яго думку, выглядае стварэнне атрадаў юных інспектараў руху ў школах. Дзеці навучацца не толькі правілам дарожнага руху, але і паводзінам на вуліцы.

Атрад, што створаны ў СШ №9, дзейнічае пад кіраўніцтвам **Святланы Шыдлоўскай і Аляксандра Субача**. Сёлета школьнікі ў рэгіянальных "Спаборніцтвах юных інспектараў дарожнага руху" занялі 3-е месца па выніках усіх конкурсаў і 1-е па правілах дарожнага руху.

Кожная сёмая ахвяра ДТП у рэспубліцы – дзеці. Не адзін год запар асноўнымі парушэннямі застаюцца:

– нечаканы выхад з-за прадметаў, дрэў, якія абмяжоўваюць бачнасць (каля 42%);

– рух на веласіпедзе, сутыкненне з іншымі транспартнымі сродкамі (каля 7%);

– пераход дарогі ў нявызначаным месцы (каля 32%).

Пачасціліся выпадкі, калі непаўналетнія кіруюць мотатранспартам без дакументаў і досведу ваджэння. Вынікі, зразумела, сумныя.

– Ніхто не павінен застацца абыякавым, калі бачыць, як дзеці парушаюць правілы дарожнага руху. Спыніце дзіця, якое збіраецца перабегчы дарогу ў небяспечным месцы, падкажыце, дапамажыце, – нагадвае Уладзімір Лукашык.

Ён заўважае, што ёсць выпадкі, калі дзеці папросту не ведаюць, дзе можна перайсці вуліцу.

**Вольга ПІЛІПЕНКА.**

■ **ПАМЯЦЬ**

## Вечарына ў Вішневе

**ВАЛОЖЫН. У Вішнеўскім ДК народнае літаратурнае аб'яднанне "Рунь", што працуе пры раённым цэнтры культуры, правяло вечар-успамін памяці паэтаў-землякоў Пятра Бітэля, Канстанцыі Буйло, Хведара Чэрні.**

Даніну павагі творцам прыехалі аддаць вядомыя паэты намеснікі старшыні Саюза пісьменнікаў **Навум Гальпяровіч** і **Віктар Праўдзін**, галоўны рэдактар газеты "Літаратура і мастацтва" **Алесь Пісьмянкоў**, мясцовая паэтка **Валянціна Гіруць-Русакевіч**. Гучала жывое слова-успамін удзячных землякоў з Вішнева, вершы паэтаў, выконваліся песні, напісаныя на іх словы. Многія з іх напісаў мясцовы кампазітар, член Саюза кампазітараў **У. Гаркуша**.

**Надзея МАЦВЕЕВА.**

■ **ВЫСТАЎКІ**

## Мастакі-выкладчыкі

**МАЛАДЗЕЧНА. У выставачнай зале САШМ перад новым навучальным годам свае работы паказалі мастакі-выкладчыкі школы Мікола Аўчыннікаў, Рыгор Мяжуеў, Людміла Летунова, Ларыса Шуліцкая.**

На выстаўцы экспануюцца краявіды, партрэты, нацюрморты, фармальна-пластычныя пошукі мастакоў, выкананыя ў тэхніцы акварэлі, графікі, жывапісу. Створаныя яны за апошні час.

У школе таксама працуе выстаўка дыпломных работ вучняў САШМ. Гэта творы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва саломапляцення, аплікацыі, выцінанкі, жывапіс, графіка.

**Мікола АЎЧЫННІКАЎ.**

■ **ХРОНІКА**

## Пагарэльца ўзнаўляюць

**МАЛАДЗЕЧНА. Працягваюцца работы па ўзнаўленні згарэлага дома па вуліцы Паркавай.**

ААТ "Будаўнік-197" будуе дах. Зроблены ўжо драўляны каркас. З панядзелка пачаліся ўнутраныя работы. Фірма "Медыя" мусіць разбіць стары тынк і нанесці новы. Тэрмін выканання работ – месяц.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Мы разам, і гэта здорава

**ВАЛОЖЫН. Учора ў Івянецкім дзіцячым доме-інтэрнаце прайшла акцыя "Мы разам, і гэта здорава".**

Дзеці з Івянца запрасілі да сябе ў госці равеснікаў з трох гарадскіх школ, Івянецкай, Сівіцкай і Каменьскай. Мэта акцыі – знаёмства з жыццём дзяцей-інвалідаў.

Пасля "круглага стала" госці наведалі гісторыка-краязнаўчы музей, кабінеты працы, пабывалі на канцэрце мастацкай самадзейнасці.

**Наталля ШТЭЙНЕР.**

## Музейны буклет

**МЯДЗЕЛ. Тыражом у 1000 экземпляраў выйшаў з друку буклет пра мясцовы музей Народнай славы.**

Ён шыкоўна выдадзены, з добрай паліграфіяй. Буклета такога ўзроўню ў музеях Міншчыны, пэўна, няма.

Шмат тут звестак і пра музей, і пра людзей, якія яго стваралі. Дырэктар установы **Ніла Мацюшонак** расказвае, што выпуск буклета – даўняя задума, але ажыццявіць яе ўдалося толькі цяпер. Прафінансаваў выпуск раённы бюджэт.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

■ **ШКОЛА**

# Непрыстасаваны цэнтр дзіцячай творчасці

**ВІЛЕЙКА. Летась мясцовы цэнтр дзіцячай творчасці перасялілі з утульнага памяшкання на заводзе "Зеніт" у непрыстасаваны падвал. З таго часу аддзел адукацыі амаль забыўся на ягонае існаванне.**

Гісторыя пачалася з таго, што на "Зеніт" прыйшоў новы дырэктар **Ігар Каляда**. І вырашыў ён пабудаваць там гандлёвы цэнтр. Дырэктар цэнтра дзіцячай творчасці **Валерый Бязо** паведаміў пра высяленне загадчыку аддзела адукацыі **Яўгену Кулінковічу**. Той, акрамя напаўразбуранага будынка былой бальніцы, нічога іншага на замену не прапанаваў. Пусты падвал па вуліцы Чапаева знайшла інспектар дзяржпажнагляду **Алена Альфер**. Туды і пераехалі.

На "Зеніце", у памяшканні, дзе быў цэнтр дзіцячай творчасці, будаўнікі ўзарвалі падлогу. Сышоў з пасады тадышні дырэктар "Зеніта", і там усё заглохла.

А ў падвальным памяшканні год таму былі толькі сцены. Ні святла, ні ацяплення, ні ўмывальніка, ні прыбіральні. Дапамог намеснік дырэктара "Зеніта" **Валерый Шыла**, які дазволіў зняць свяцільні, а потым дапамог і з батарэямі.

Валерый Бязо мае прэтэнзіі да аддзела адукацыі:

– Самыя "высокія" госці, якія заходзяць да нас, гэта камендант інтэрната, якому належыць падвал, і Алена Альфер. З Дзяржпажнаглядам мы наладзілі стасункі з таго часу, калі ў нас адкрыўся гурток "Юны пажарны". Падтрымкі з аддзела адукацыі амаль не адчуваем. Найбольш буйной сумай на абуладкаванне былі 150 тысяч рублёў. На іх мы купілі паўтара кубаметра дошак, каб насцяліць падлогу ў майстэрні. Усяго за год нам выдзелілі каля 300 тысяч. Іншы раз не было грошай, каб заплаціць за цвікі. Рамонт праводзілі толькі сваімі сіламі. Толькі электрыкі ўстанавілі трохфазныя разеткі.

Летась у цэнтры займалася каля 300 дзяцей у 27 гуртках. Гонар установы – мадэлі машын, караблёў і ракет – пыляцца ў далёкім куце. Пыл на мадэлях выціраюць толькі перад традыцыйнай штогадовай выстаўкай, а потым яны зноў год пыляцца.



Фота Мікалая ХАДАСЕВІЧА.

Дырэктар Вілейскага цэнтра пазашкольнай работы Валерый Бязо побач з імправізаваным умывальнікам.

Ёсць праблемы ў стасунках з камісіяй аддзела адукацыі, якая правярае ўсе навучальныя ўстановы перад пачаткам кожнага навучальнага года.

– Летась яна нас абышла, – сцвярджае Валерый Бязо. – Па чыёй ініцыятыве, не ведаю. Калі яна ў нас была сёлета, то прадстаўнік цэнтра гігіены і эпідэміялогіі сказаў, што нас не атэстуюць. Няма ў нас нармальнага ўмывальніка і прыбіральні.

Наконт працаўладкавання ў тым выпадку, калі цэнтр расфарміруюць, дырэктар сказаў так:

– Усе настаўнікі, што раней у нас працавалі, знайшлі добрааплачваемую работу. Бо ў нас працуюць спецыялісты, і работу ім знайсці нескладана.

У камісіі нам гавораць, што цэнтр дзіцячай творчасці на гэты навучальны год атэставалі. Хоць і з вялікімі пытаннямі.

**Юрый КАРПІЦКІ, Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ **ІМЯНІНЫ**

**14 верасня**
**Праваслаўныя**: Марфы, Сямёна.
**Каталіцкія**: Узвіжанне. Бярнарда, Цыпрыяна.

**15 верасня**
**Праваслаўныя**: Антона, Івана.
**Каталіцкія**: Альбіны, Нікадзіма.

**16 верасня**
**Праваслаўныя**: Захара, Зіновія, Івана, Пятра, Яфіма.
**Каталіцкія**: Камііі, Эдзіты, Карнеля, Цыпрыяна.

**17 верасня**
**Праваслаўныя**: Вавілы, Даната, Майсея, Фёдара, Юльяна.
**Каталіцкія**: Юстыны, Роберта, Францішка.

**18 верасня**
**Праваслаўныя**: Елізаветы, Раісы, Апанаса, Глеба, Давыда, Захара, Максіма, Фёдара.
**Каталіцкія**: Ірэны, Станіслава, Юзафа.

**19 верасня**
**Праваслаўныя**: Архіпа, Давыда, Зянона, Кірылы, Міхаіла.
**Каталіцкія**: Канстанцыі, Януара.

**20 верасня**
**Праваслаўныя**: Івана, Лукі.
**Каталіцкія**: Філіпіны, Францішка, Яўстафія.

■ **ДНІ**

14 – **75 год з дня нараджэння** (1926) **Л. Шакуна**, беларускага мовазнаўцы.

15 – **90 год з дня нараджэння Ю. Таўбіна** (1911–1937), беларускага паэта.

16 – **Дзень работнікаў лесу.**

18 – **Дзень міру**

20 – **Дзень мытніка**

## Кінатэатр «Радзіма»

**Вялікая зала, верасень**

14 – 16 **"Эмануэль"**, Францыя, эротыка (акрамя асоб да 18 год) 21-00

**"Знаёмства з бацькамі (Прывітанне продкам)"**, ЗША, камедыя 15-00, 17-00, 19-00

17 – 23 **"Эмануэль-2"**, Францыя, эротыка (акрамя асоб да 18 год) 21-20

**"Чаго хочуць жанчыны?"**, ЗША, камедыя, 2 серыі 15-00, 17-20, 19-20

**Для дзяцей**

16 – **"Прынц і вячэрняя зорка"**, Чэхія, прэм'ера, казка 13-00

■ МЕРКАВАННЕ

# Якую Беларусь мы атрымалі

**Старшыня БНФ Вінцук Вячорка лічыць, што «рэжым Лукашэнкі выбары прайграў, бо цывілізаваны свет не прызнаў іх дэмакратычнымі.**

Лукашэнка не здолеў падмануць альбо падкупіць еўрапейцаў. Таму ён зацягнуў выдачу ім візаў, а некаторых аўтарытэтных юрыстаў увогуле загадаў не пускаць у Беларусь. Але яны праглынулі крыўду – і дэлегацыі прыехалі. Еўрапейцы ўбачылі ўсё: хлусню ды несправядлівасць у афіцыйных газетах і на тэлебачанні, адсутнасць дэмакратычных прадстаўнікоў у выбарчых камісіях, бяспраўнасць назіральнікаў. А фактаў дзікунскага абыходжання з незалежнымі назіральнікамі хапае: іх тысячамі выкідалі з участкаў і нават білі. Еўрапейцы не паверылі самахвальскім лічбам Лукашэнкі, яны толькі паспачувалі беларусам, што ізаляцыя нашай краіны не будзе спрыяць яе дэмакратызацыі.

Еўропа вызначыла сваё стаўленне да выбарчага фарсу, а нам трэба давесьці да кожнага грамадзяніна нашай краіны праўдзівую інфармацыю пра тое, як улады скралі ягоны голас. І дамагацца новых, дэмакратычных выбараў.

Нарэшце настаў канец ілюзіям некаторых нашых дзеячаў, нібыта Расія дапаможа беларусам пазбавіцца дыктатуры. Не дапаможа. Пуцін першы павіншаваў Лукашэнку з «перамогай», бо Крэмль зацікаўлены ў слабай, беднай, дыктатарскай Беларусі, якою лёгка памыкаць і якую, урэшце, лёгка праглынуць».

**Па матэрыялах прэс-службы БНФ.**

# Чаму Ганчарык прайграў выбары

**Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, каля трох чвэрцяў выбаршчыкаў, што ўзялі удзел у галасаванні, ці блізу 63% усіх выбаршчыкаў (каля паловы насельніцтва), падоўжылі мандат Аляксандру Лукашэнку яшчэ на 5 год.**

Чаму прайграў **Ганчарык**? Цяпер ужо можна гаварыць, што кандыдатура "адзінага" кандыдата была памылковая. Ну няма ў Ганчарыка Лукашэнкаўскай харызмы і ўсё тут!

Цяжка сказаць, што было б, калі на месцы Ганчарыка быў **Домаш**. Але, мяркую, вынік быў бы, прыкладна, такі ж – Лукашэнка перамог бы ў першым туры, бо пазнавата вызначыліся з адзіным. Успомнім, **Ельцын Пуціна** ў Расіі за год да абрання пераемнікам назваў. Натуральна, там маштабы іншыя, але ж за месяц прэзідэнтам стаць цяжкавата.

А "дэмакратычнай кааліцыі" цяпер далі пяць год, каб праявіць сябе. Хацелася б, каб гэта кааліцыя ператварылася ў цывілізаваны апазіцыйны палітычны рух, які ёсць у кожнай нармальнай дзяржаве. І будзе шкада, калі кааліцыя распадзецца пасля першага паражэння.

Многае будзе залежаць ад пазіцыі, якую зоймуць назіральнікі. Калі сусвет прызнае вынікі выбараў, то ў Беларусі ёсць шанц выйсці з крызісу. Але будуць праблемы, калі назіральнікі скажуць іншае. Хаця беларускія ўлады гэта не палохае.

Даверaная асоба прэзідэнта **Мікалай Чаргінец** лічыць, што калі выбары не прызнаюць, то "рэспубліка будзе рабіць, а народ працаваць. Мы без дапамогі Захаду стварылі базу, якая дазваляе нам рабіць самастойныя крокі ў эканоміцы, сацыяльнай сферы і палітыцы".

Акрамя самога прэзідэнта, з перамогай можна віншаваць работнікаў выканкомаў і дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі. Яны плённа пашчыравалі на ніве перамогі прэзідэнта Беларусі.

А жыццё ў наступную пяцігодку чакаецца цікавае. Што, прыкладам, будзе рабіць Лукашэнка праз 5 год? Пры ўмове, што пакуль заканадаўства забараняе кіраваць дзяржавай больш за два тэрміны запар.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ПАМІЖ МОЛАТАМ І КАВАДЛАМ

# Погляд на гісторыю апошняй вайны

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 25, 26, 28, 30.**

Убіліся туды і мясцовыя "люмпены" – асобы вельмі непаважаныя, якія заўсёды канфліктавалі і з людзьмі, і з законам: адпетыя п'яніцы, злодзеі. Адным словам, іх хутка празвалі вельмі трапна: басякі. За вочы іх інакш і не называлі. Дапаможная паліцыя спачатку так і швэндалася ў сваёй вопратцы з белымі павязкамі на рукавах. На павязцы – нямецкі надпіс "паліцай". Апранулі яе ў чорную форму значна пазней.

Затым з'явіліся і зондэркаманды, і фаршуцкаманды, і ваенныя будаўнічыя каманды Тодта.

Гэтыя паказалі сябе "сапраўднымі арыйцамі"...

## Кроў стыла ў жылах ад убачанага

Першыя два з паловай месяцы Заходняя Беларусь знаходзілася пад ваенным праўленнем акупантаў. Адразу ж з'явіліся загады ваенных камендантаў да насельніцтва. Заканчваліся яны, звычайна, пагрозай смяротнай расправы – расстрэлу. За ўкрыванне зброі, камісараў, чырвонаармейцаў, камуністаў... за самае малое непадпарадкаванне... Слова "расстрэл" чарнела тоўстым шрыфтам і кідалася ў вочы кожнаму. Патрабавалася здаць неадкладна веласіпеды, радыёпрыёмнікі, паляўнічыя ружжы. За невыкананне загаду – расстрэл.

Камісараў і камуністаў знішчалі адразу. У першыя ж дні акупацыі пагалоўна знішчалася савецкая інтэлігенцыя, служачыя былых савецкіх устаноў, работнікі міліцыі, НКУС, актывісты. Расстрэльвалі ці забівалі да смерці любога, на каго даносілі. Строга выконваўся загад Гітлера ад 17.03.1941 года: "Сталінскую інтэлігенцыю належыць знішчыць. Кіраўнічы апарат павінен быць разбіты" (Ю. Туронак, т. ж., стар. 38).

Асабліва вылузваліся са скуры палякі: выслужваліся перад немцамі і "ачышчалі" Беларусь ад беларусаў, каб пасля вайны зноў далучыць яе да Польшчы. У Вілейцы тады арыштавалі каля 250 чалавек. Стралялі за Стаўкамі: ставілі ля ямы чалавек па 10 стралялі з кулямётаў па нагах і жывых закопвалі затым.

Многія з тых палякаў сапраўды былі пакрыўджаныя, а ў савецкі час і цяпер сваю злосць зганялі на кім папала. Яны імкнуліся, як і немцы, пазбавіць беларусаў іх сапраўдных кіраўнікоў – нацыянальна свядомых лідэраў. Пачалося паляванне на такіх людзей. Іх або расстрэльвалі, або проста забівалі да смерці. Такія жудасныя зверствы палякаў працягваліся ў Заходняй Беларусі да лета 1942 года, калі адбылося неверагоднае.

## «Сумленныя», «богабаязныя» і «стрыманыя» на маршы

Але сапраўдную сваю звярыную існасць захопнікі праявілі ў адносінах да ваеннапалонных. У Куранцы Вілейскага раёна быў створаны перасыльны лагер. Проста пад адкрытым небам, на бруку рыначнай плошчы, дзе да вайны гандлявалі жывёлай. Успамінаў май дзядзька **Іван Горыд** ("РГ", "Браты Горыды", 05.03.1999 г.):

– Пад'ём у гадзін пяць раніцы. Хто не змог падняцца – расстрэльвалі на месцы. Не кармілі і не паілі палонных, выстройвалі ў калону і гналі ў Маладзечна. Жанчыны ў Куранцы спрабавалі перадаць палонным ежу. Іх адганялі бярозавымі палкамі, цкавалі сабакамі. Мне на воз паклалі трох параненых, я цішком ім перадаў ежу, схаваную ў саломе. Як толькі які палонны ад знямогі захістаецца, яго білі тоўстымі бярозавымі палкамі, пакуль не забівалі. Некаторым стралялі ў лоб. Пакуль калону дагналі да Маладзечна, усю дарогу ўсеялі трупамі палонных.

**Працяг будзе.**

**Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.**

# Янка Урублеўскі дома

**Янку Урублеўскага, якому праз год – восемдзесят, немцы вывезлі на прымусовую працу ў сорак другім. Было яму тады дваццаць. Дома, у кіламетры ад Войстама, засталіся бацькі, сястрыца. Ужо ў Нямеччыне хлопец з Беларусі пазнаёміўся з дзяўчынай з Познані, якая таксама была ў выгнанні. Пабраліся шлюбам. Па вайне прыехалі ў прыгарад Гданьска, які стаў польскім горадам, сталі жыць.**



**Гэты склеп Янка Урублеўскі пабудаваў разам са сваім бацькам у 1939 годзе.**

Янка працаваў у моры – лавіў рыбу, пасля працаваў на рыбаперапрацоўчым заводзе, слесарам на суднаверфі, суседзі абіралі яго сваім солтысам.

У 1974 годзе Янка са сваёй сям'ёй прыехаў на радзіму. Двум дочкам тады было па 16 і 18 год. Сёння яны ўжо самі маюць свае сем'і.

– **Дзядзька Янка, а ці сумуеце вы па Беларусі? – пытаюся ў Янкі Урублеўскага, едучы разам з ім, а таксама яго стрыечным пляменнікам Аляксандрам Салагубам з Маладзечна ў Войстам.**

– Не, – адказвае пан Ян. – Тут жа усё змянілася. Дзе была багна – сталі лугі, дзе пасвілі раней кароў – цяпер лес. Не пазнаць. А каб вярнуўся сюды адразу па вайне, так бы і жыў у нэндзы.

– **А па-беларуску разумееце?**

– І разумею, і гавару, але ўжо, ведаеце, на такой мяшанцы.

Неяк так сталася, цалкам выпадкова, што Янка пасяліўся ў Польшчы праз плот з родным дзядзькам маладзечанца Аляксандра Салагуба, сваім стрыечным братам **Міколам**. Таксама паходжаннем з нашых мясцін. Летась Аляксандр гасцяваў у **Марты**, удавы свайго дзядзькі Міколы ў Гданьску і разгаварыўся з суседам Янкам, сваяком. А той і скажы, што апошні раз быў на радзіме ў гасцях у сястры **Лёні** ў семдзесят чацвертым. Пасля таго сувязь неяк перарвалася – дасылаў лісты, але не меў адказу. Можа б, Алесь што дазнаўся пра Лёню. Жыве ж яна ў той самай хаце, адкуль паехаў у Нямеччыну Янка, ля самага Войстама. Можа Лёня яшчэ жывая? Праўда, цяпер яна не Урублеўская, а **Шульга**. Леанарда Шульга. Але ж чалавек не іголка...

Аляксандр Салагуб, вярнуўшыся дадому, напісаў ліст у Войстам да парафіяльнага ксяндза **айца Леана**. Святы айцец не прымусіў доўга чакаць. Леанарда Шульга жывая-здаровая, але жыве не ў ваколіцы Войстама, а крыху далей, ва Углянах, кіламетраў пяток ад мястэчка – злучыла свой лёс з другім адзінокім чалавекам.

Хутка ва Углянах быў і Салагуб. Цётка Лёня, аказваецца, таксама пісала да брата, але, магчыма, у Гданьск канца семідзесятых пачатку васьмідзесятых пісьмы таксама не заўсёды спраўна даходзілі. Гданьк віраваў. Менавіта з Гданьска пачаўся закат польскага камунізму і ў Гданьск Саветы, не раздумваючы, кінулі б, як калісьці ў Прагу, свае танкі. Не атрымалася. А людзі і далей жылі сваім жыццём, пішучы лісты і чакаючы на іх адказы, якія не заўсёды даходзілі да адрасатаў.

Карацей, брат і сястра згубілі адзін аднаго. Але калі Янка Урублеўскі даведаўся пра сястру, вырашыў абавязкова да яе прыехаць.

– **А як вы там, дзядзька Янка, у Польшчы?** – пытаюся, пакуль наш аўтамабіль едзе праз Вілейку на Войстам, дзе яго павінна чакаць сястра – брат перад ад'ездам з Польшчы даў тэлеграму.

– Ну як. Атрымліваю пенсію каля тысячы двухсот злотых – трыста долараў, лічыце. Па вашых мерках, многа. Але ёсць пенсіі лепшыя. Адно скажу, жывем лепей, чым тут жывуць мае землякі,– Янка Урублеўскі паказвае на прыземістыя хаткі ў Бараўцах, праз якія мы паехалі наўмысна, а не па аб'язной дарозе. Янка ўспамінае, што менавіта пасярод гэтай вёскі яны з бацькам заўсёды спынялі каня, каб напаіць яго з калодзежа з жураўлём. У Вілейку, павятовы горад, ездзілі, каб залатвіць нейкія папяровыя справы.

– У Смаргоні бывалі часцей – каб прадаць збожжа, жыўнасць, – тлумачыць Янка.

Скідаю нагу з педалі газа, углядаемся па левы бок вуліцы. Вёска, нягледзячы на тое, што знаходзіцца непадалёк ад Вілейкі, а некаторыя хаты абкладаюцца цэглай, вымірае. Таго калодзежа, не знаходзім:

– Пэўна, не пражыў час. Драўляны быў.

Нароча, мост праз Нарачанку, Папоўцы, нарэшце, – Войстам. Арыенцір – касцёл. Адтуль родная хата як на далоні. Пераязджаем праз невялічкі масток. Паўз ручай раней была дарога да хаціны. Знаходзім яе, едзем.

– Сястра калісьці пісала, што святло правялі, але дзе ж правады? – шукаем вачамі і знаходзім слупы.

Спыняемся. Ля панадворку побач з матацыклам стаіць мужчына, назірае за магутным трактарам, што пераворвае поле, на якім расла канюшына. Пытаемся, ці не ён тут жыве.

– Не, – адказвае. – Тут увогуле нікога няма.

– Не можа быць, – усміхаюся, – гаспадня павінна ведаць, што мы прыедзем. Мы ж брата ажно з Польшчы прывезлі.

– Не-не. Яна замужам ва Углянах.

Мы выйшлі, не даваяраючы чалавеку. Ён жа не ведае, што Ян Урублеўскі апошнім часам пісаў сюды, на гэты адрас, і менавіта адсюль атрымліваў адказы. Але усё сапраўды заросшы травой.

– Сцежкі ніводнай няма, – уздыхае Янка.

Падыходзім да склепа.

– Я з татам будаваў,– гаворыць Янка. Вось паглядзіце на надпіс: 1939. А во і жорнаў наш. – Янка паднімае з травы круглы камень.

Наш спадарожнік Аляксандр Салагуб спрабуе разабрацца ў сітуацыі:

– Я ведаў, што пані Лёня жыве ўжо ва Углянах, але яна пісала, што будзе чакаць дома.

Падыходзім да калодзежа. Ён таксама быў яшчэ перад вайной. Але Янка не памятае, ці глыбокі ён. Адкідаем вечка. Углядаемся ў цемень, кідаем каменьчык. Вада ёсць, глыбокая студня.

Да Углянаў не так і далёка. Вось Рацавічы, пераязджаем гасцінец, а праз нейкую пару кіламетраў мы ўжо ва Углянах:

– Дзе тут можна знайсці Леанарду Шульгу? – пытаецца ў вяскоўца Аляксандр Салагуб. – Жоўтая хата.

– Няма ў нашай вёсцы такіх.

– Не можа быць. Я тут быў, дзесьці ля аўтобуснага прыпынку жыве.

Суразмоўца паціскае плячыма.

– Мы ёй брата з Польшчы вязем, – стараюся патлумачыць я.

– А, з Польшчы, так і сказалі б. Яе ж у нас Лёняй Вераб'іхай завуць. Дык яны чакаюць. Вось, зусім побач.

Ужо пасля мы даведаліся, што цётка Лёня тэлеграму атрымала, адразу ж напісала Салагубу ў Маладзчна, што сустрэне брата ў Смаргоні, але каб толькі дакладна ёй паведамілі па тэлефоне, калі гэта зрабіць.

Ліст спазніўся ўсяго толькі на дзень.

Калі мы пад'ехалі, цётка Лёня капала бульбу ў агародзе. Не урадзіла сёлета. Але неяк гаспадарка пераб'ецца. Дабро вырасла – ужо ў засеках.

Пасля першых абдымкаў і слёз: — Янка мой, Янaчка, які ж ты сівенькі, — мы сабраліся за сталом. А Янка і Лёня не адводзілі адзін ад аднаго вільготных вачэй. Столькі не ведаць пра лёс роднага брата, роднай сястры:

— Янaчка, я табе усё раскажу. А на ровары ты ездзіш?

— О, так, мы з табой аб'едзем на ровары ўсе сцежкі, усюды хачу пабываць.

— А здолееце на ровары? — пытаюся.

— Чаму ж не. На радзіму прыехаў.

Я пашкадаваў аб сваім пытанні, якое задаў напачатку: ці сумуе пан Янка па Беларусі.

Дзень чацвертага верасня падыходзіў да канца. На вуліцы шарэла, калі мы развітваліся з гаспадыняй, яе мужам і братам, пакідаючы іх са сваёй радасцю, успамінамі, слязьмі, доўгімі аповядамі адзін аб адным. Праз колькі часу вечар прыйдзе і ў Гданьск.

**Аляксандр МАНЦЭВІЧ.**

■ ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

# За крок ад бездані

**10.09 Гомель – Маладзечна-2000 3:0 (2:0)**

**Арбітр** – Вялічка (Мінск), 3000 гледачоў.

**Галы**: Сысоеў (33, 41), Нікіценка (50).




**Людас Румбуціс** лічыць, што ФК «Маладзечна-2000» дамінаваў на полі ў першым тайме і меў тры спрыяльныя моманты для ўзяцця варот. Аднак **Турчыновіч** і **Тартоўскі** скарыстаць іх не здолелі.

Гамяльчане забівалі да перапынку пасля памылак **Сцепановіча**. Спачатку ён няўдала выйшаў на падачу вуглавога, а неўзабаве не ўтрымаў у руках мяч пасля штрафнога.

Напачатку другой паловы сустрэчы Турчыновіч ізноў не выкарыстаў добры момант у атацы, паследавала "абаротка" і трэці ў матчы гол.

Лакаматыў-96 – Белшына 1:1, Ведрыч-97 – БАТЭ 0:3, Тарпеда-МАЗ – Славія 2:0, Нафтан-Дэвон – Нёман-Белкард 1:2, Дынама (Б) – Днепр-Трансмаш 0:0, Дынама (М) – Шахцёр 2:0.

**Бамбардзіры**: Давыдаў (Нёман-Белкард) – 15, Кутузаў (БАТЭ) – 14.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

| | |
|---|---|
| 1. Белшына | 39 |
| 2. БАТЭ | 38 |
| 3. Славія | 32 |
| 4. Нёман-Белкард | 32 |
| 5. Тарпеда-МАЗ | 31 |
| 6. Дынама (М) | 30 |
| 7. Гомель | 27 |
| 8. Шахцёр | 26 |
| 9. Днепр-Трансмаш | 25 |
| 10. Дынама (Б) | 20 |
| 11. Лакаматыў-96 | 14 |
| **12. Маладзечна** | **12** |
| 13. Ведрыч-97 | 7 |
| 14. Нафтан | 4 |

■ ЭКСПРЭС-АНАЛІЗ

**Дзесяць апошніх матчаў чэмпіянату прынеслі ФК "Маладзечна" толькі адно ачко. Паказваючы або не паказваючы гульню, маладзечанцы саступаюць сваім сапернікам і тым самым крок за крокам набліжаюцца да небяспечнай зоны вылету.**

29 разоў пасля апошняй перамогі над "братам па падвале" "Ведрычам-97" давodзілася **Рубацкаму** на пару са **Сцепановічам** даставаць мяч з сеткі варот. Віна за прапушчаныя галы ляжыць не толькі на варатарах, а, хутчэй за ўсё, на абароне каманды. Праблема гэтая пасля першага круга не была вырашаная, нягледзячы на новыя імёны абаронцаў, – дарэчы, дублёраў у сваіх былых клубах. А ад перамены ў "рамцы" галкіпераў лік істотна не мяняецца.

Нарэшце, вызначылася пара цэнтральных паўабаронцаў – **Міхалёў** і **Азаронак**. Што тычыцца флангаў, то тут сапраўды назіраецца канкурэнцыя. Добра, каб ад гэтага яшчэ і рос узровень гульні, чаго пакуль не відаць.

3 7 галоў за апошні дзесятак матчаў па 3 прыходзяцца на Турчыновіча і Міхалёва. Забіўны **Турчыновіч** – вось уся лінія атакі. Ні **Макрыцкі**, ні **Сідарэнка** пакуль (а мо, і ўжо) не апраўдваюць надзеі пачатку сезона. Прыкладам, нават у матчах за дубліруючы склад яны мала чым нагадваюць сваю прыналежнасць да асноўнага.

Наперадзе вырашальныя сустрэчы. У наступных матчах з "Дынама" (Брэст), "Нафтанам", "Ведрычам" і "Лакаматывам" трэба браць ачкі. Напэўна, толькі зыходзячы з патрэбнага выніку ў гэтых сустрэчах **Людас Румбуціс** пераставляе адных і тых гульцоў на полі. Ёсць вялікая верагоднасць таго, што праз колькі гульняў мы зможам убачыць у складзе моладзь, якой таксама трэба набірацца досведу.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ПАРТРЭТЫ

# Віталь Міхалёў: «Вышэйшую лігу пакідаць не збіраюся»

**Даведка. Віталь Міхалёў, нарадзіўся 10 кастрычніка 1974 года. Цэнтральны паўабаронца, капітан ФК "Маладзечна". Выпускнік спартшколы мінскага "Тарпеда". Гуляў за "Камунальнік" (Слонім), "Белшыну" (Бабруйск). З 2000 года ў Маладзечне.**

Пасля даволі ўдалага старту ў вышэйшай лізе з сярэдзіны першага круга маладзечанскі клуб пачаў здаваць пазіцыі. Бязвыйгрышная серыя прывяла да таго, што застаўся толькі крок да небяспечнай зоны вылету з лігі мацнейшых. Гульню каманды аналізуе капітан клуба Віталь Міхалёў:

– Нельга назваць наша становішча крытычным. Мы проста трапілі ў паласу няўдач. Каманда маладая, не заўсёды хапае досведу ў матчах з моцным сапернікам. Як вынік – у большасці сустрэч поўнасцю прайграем другі тайм. А гэта вырашае многае, калі не ўсё.

**– Праблемы са складам таксама ўплываюць на вынік?**

– І гэта таксама. Не хапае стабільнасці. Практычна, такім складам мы гуляем ужо другі сезон, але нават цяпер на некаторых пазіцыях нічога не вядома. Безумоўна, гэта адбіваецца на футбалістах. З'яўляецца боязь памылкі, што прыводзіць да новых агрэхаў.

**– Напачатку сезона вялікія надзеі аматары футбола ўсклалі менавіта на вас. Але атрымліваецца пакуль не ўсё.**

– Я таксама шмат над гэтым думаў. Магчыма, не падыходжу на ролю лідэра. Першым трэба быць усюды, не толькі на футбольным полі. Тут і псіхалогія павінна быць асаблівая. Ёсць мэты, працую.

**– Вядома, за дрэнны вынік адказвае трэнер. А капітан?**

– Магчыма, і гэта сказваецца на ўласным выступленні. Трэба набыць упэўненасць, прычым усёй камандзе – тады будзе вынік.

**– Вышэйшую лігу пакідаць не збіраецеся?**

– Такой думкі не павінна быць. Кіраўніцтва, гульцы – усе мы працуем і робім усё магчымае. Калі цяпер з такой думкай хадзіць, навошта ўвогуле выходзіць на поле? Усё будзе добра.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**


Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

**У матчы першага круга ФК «Маладзечна» - «Гомель» Людас Румбуціс быў удзячны за вынік капітану каманды Віталю Міхалёву.**

■ ГАРАДКІ

# «Еўропа» збіралася ў Еўпаторыі

**Напрыканцы жніўня ў Еўпаторыі прайшлі комплексныя кантынентальныя спаборніцтвы па гарадках. Буйная (але ўсё адно ўрэзаная па колькасці з-за недахопу фінансаў) дэлегацыя была з Маладзечна.**

Дарослыя змагаліся за Кубак Еўропы. На кваліфікацыйным этапе ў 30 фігур адбіраліся 20 мацнейшых спартсменаў. З пяцёркі маладзечанцаў толькі **Аляксандр Філістовіч** не прабіўся ў наступны этап.

Там пачалася сістэма плэй-оф (першы супраць дваццатага, другі супраць дзевятнаццатага і г.д. у 30 фігур), дзе спынілі свой шлях **Аляксандр Кулак** (саступіў **Васілю Духаніну**) і **Аляксандр Гарошка**.

На трэцім этапе (зноў у 30 фігур) 10 пераможцаў і 2 лепшых з прайграўшых склалі новыя пары, дзе **Аляксандру Бабічу** саступіў наш **Дзмітрый Шэйко**.

У заключны этап у ліку 6 пераможцаў і 2 лепшых з прайграўшых прабіўся толькі **Генадзь Сушко**. За плячыма ўжо было 90 фігур, на якія ён патраціў 116 біт (5 паказчык), а найлепшы вынік меў 19-гадовы **Аляксей Гарбатых** з Томска (Расія). Спартсмены пераключыліся з круглых гарадкоў на квадратныя і пачалі змагацца да дзвюх перамог у партыях з 10 самых складаных фігур.

Чвэрцьфінальная сустрэча Сушко з Духаніным была дастойная фіналу, нічыя 1,5:1,5, і, на жаль, паражэнне ў барацьбе да першай памылкі. Духанін, урэшце, стаў пераможцам (у фінале абыграў 62-гадовага **Анатоля Пагарэлава** з Запарожжа), трэці – Бабіч, чацверты – Гарбатых.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

**Пра камандны турнір гарадошнікаў чытайце ў наступным нумары «РГ».**

## Табло

■ ДУБЛЁРЫ

**Гомель – Маладзечна-2000 1:0**

Гол: Марозаў (28).

Склад: Рубацкі, Дрозд, Відрук, Альховік, Дараховіч, Лявончык, Антановіч, Карпіленка (кап.), Смірноў, Сідарэнка (Харэцкі, 58), Макрыцкі (Матусевіч, 68).

Першы тайм умовы дыктавалі гаспадары. Як вынік, пасля памылак абаронцаў гомельскі нападаючы амаль без перашкод добрым ударам закончыў свой сольны праход.

Другі тайм прайшоў у роўнай барацьбе, магла вызначыцца любая каманда. Самы рэальны шанц не скарыстаў Сяргей Дараховіч – удар прыйшоўся ў перакладзіну.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ ТАВАРЫСКІЯ СУСТРЭЧЫ

**30.08 Тарпеда (Жодзіна) – Маладзечна-2000 3:3.**

Галы: Макрыцкі – 2, Сідарэнка.

**02.09 "Металург"-91 – "Маладзечна-2000"-01 2:2 (па пенальці 5:5).**

Галы: Макрыцкі (54), Кубараў (60); Тартоўскі (15), Бязручка (48, адзін са спонсараў клуба). Два таймы па 35 мінут.

**04.09 Маладзечна-2000 – Жальгірыс (Вільнюс) 1:0 (1:0)**

Арбітр – Дзмітрачкоў (Маладзечна), 500 гледачоў.

Гол: Ваўчок (45).

Склад: Сцепановіч (Рубацкі, 46), Бычкоўскі, Ваўчок, Муравейнікаў, Сысой, Мігас (Дараховіч, 80), Азаронак (Багайчук, 54), Вільтоўскі (Лявончык, 54), Тартоўскі (Карпіленка, 60), Міхалёў (Смірноў, 65), Турчыновіч (Макрыцкі, 54).

Літоўцы прывезлі яўна не асноўны склад. Таму маладзечанцам было даволі лёгка супрацьстаяць відамаму сапернiку. Яго абаронцы дазвалялі нашым футбалістам прарывацца на добрыя пазіцыі для ўзяцця варот, але, як заўсёды, не хапала выканаўчага майстэрства ў завяршальнай стадыі. Прычым нашмат часцей небяспека ўзнікала ў штрафной "Жальгірыса" ў канцоўках таймаў.

Увасобіць у забітыя галы гульнявую перавагу ўдалося перад перапынкам. Дыяганальная падача-прастрэл **Вільтоўскага** справа знайшла перад самымі варотамі **Ваўчка**, якому ніхто не зашкодзіў прапіхнуць мяч паўз галкіпера.

Што тычыцца нашых дзеянняў у абароне, то нечаканай аказалася яе пабудова "чатыры ў лінію", у якой крыху ўперад ад **Бычкоўскага** і **Муравейнікава** мелі права выходзіць **Сысой** і Ваўчок. **Сцепановіч** дзейнічаў у варотах больш упэўнена за **Рубацкага**.

■ ДРУГАЯ ЛІГА

**02.09 Смаргонь – Лакаматыў (Мінск) 2:1 (0:0)**

Галы: Кошаль (70), Пагоцкі (86); Чарнуха (65, аўтагол).

Склад: Шэлест, Іваноў, Чарнуха, Курак, Пагоцкі, Відук (Якубіцкі, 88), Дукса, Селіванаў, Дзігілевіч (Шаблінскі, 53), Шагойка (Паркулевіч, 75), Шпакоўскі (Кошаль, 60).

На 86 хвіліне Пагоцкі не рэалізаваў пенальці, але вызначыўся на дабіванні.

**02.09 Забудова – Спартак-ВАР-Днепр (Шклоў) 2:2 (0:1)**

Галы: Садчанка (48), Мірановіч (76-пен); (13), (79).

Склад: Ан. Канапелька, Івашкевіч (Катлярэнка, 65), Д. Мятліцкі, Ал. Канапелька, Саковіч, Урублеўскі, Мірановіч, Садчанка, Татун, Чарнель, Ваўчок (Бяспалы, 46).

**08.09 Спартак-ВАР-Днепр (Шклоў) – Смаргонь 2:2 (2:1)**

Галы: (9), (16); Пагоцкі (31-пен.), Іваноў (90).

Склад: Кліменка, Іваноў, Чарнуха, Курак, Пагоцкі, Шпілеўскі (Максіменка, 72), Дукса, Селіванаў, Дзігілевіч (Карабінскі, 79), Паркулевіч (Шаблінскі, 46), Шпакоўскі (Кошаль, 46).

**08.09 Палессе (Казенкі) – Забудова 1:2 (1:0)**

Галы: Д. Мятліцкі (35-аўтагол); Мірановіч (86, 89).

Склад: Ан. Канапелька, Катлярэнка, Д. Мятліцкі, Ал. Канапелька, Урублеўскі, Мірановіч, Садчанка, Бяспалы, Мацієўскі, Ваўчок, М. Мятліцкі (Кавальчук, 44; Фалей, 70).

**12.09 Смаргонь – Рудзенск + : -**

Рудзенск на матч не прыехаў. Хутчэй за ўсё, яму будзе залічана тэхнічнае паражэнне з лікам 3:0. Гэта адлюстравана ў табліцы.

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Лакаматыў (+1) | 58 |
| **2.** | **Смаргонь** | **54** |
| ... | | |
| **8.** | **Забудова (+1)** | **33** |

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ПЛАВАННЕ

МАЛАДЗЕЧНА. З 10 верасня гарадскі басейн ізноў праводзіць набор у групы аздараўленчага плавання. Займацца можна штодзённа, акрамя нядзелі, у 18.05 і 18.45.

Адначасова традыцыйна пачынаецца набор вучняў 2–4 класаў у групы па навучанні плаванню. Найбольш здольных чакае наступны адбор у спартыўныя групы.

Жадаючыя могуць патэлефанаваць 53034, 53383 або 51573.

**Аддзел інфармацыі «РГ».**

## На гэтым тыдні гуляюць

**15.09 16-00 Смаргонь – Палессе (Казенкі)**

+1=0-0 3-0. У першым крузе 3:0 (Каўрыга – 3) на выездзе.

**15.09 16-30 (дубль) Маладзечна-2000 – Дынама (Брэст)**

+0=0-1 0-1. У першым крузе 0:1 на выездзе.

**16.09 16-30 Маладзечна-2000 – Дынама (Брэст)**

+2=6-9 14-34. У першым крузе 0:0 на выездзе.

**19.09 Змена (Мінск) – Забудова**

+1=0-0 2-0. У першым крузе 2:0 (Урублеўскі, Татун) дома.

# ВІНШАВАНКІ

**Людміле Фёдараўне і Віктару Фёдаравічу Засухіным** з Маладзечна
З 25-годдзем шлюбу!
Вам шчасця жадаем,
матуля і тата,
У дзень юбілею, у вашае свята.
Хваробы ніякай не ведаць ніколі,
Пражыць год да сотні,
а можа, і болей.
*Сыны Сяргей і Дзмітрый.*



Дарагія нашы
**Люда і Віктар Засухіны**!
Віншуем вас з сярэбраным вяселлем. Здароўя вам, бязвоблачных дзён, жадаем зберагчы і пранесці праз жыццё пяшчоту і ласку першых сустрэч.
*Родныя і сваякі.*

**Таццяне Сянько**. Пусть все цветы к ногам твоим падут! И звезды в изумруды превратятся. Пусть все несчастья, горести уйдут! И пусть всегда мечты твои вершатся! *Валодзя.*

**Марыйка**! З днём нараджэння! Будзь белай зайздрасцю для жанчын і дзякуй за дабрыню да ўсіх нас. *Жыхары в. Лебедзева.*

Віншуем **Аляксандра Кавалёнка** з 40-годдзем! Жадаем поспехаў у працы, шчасця, здароўя і ўсяго найлепшага. *Жонка і сын.*

З залатым вяселлем!
**Феадосії Аляксандраўне** і **Міхаілу Герасімавічу Пешкурам** з в. Гелянова, Падбярэзскі с/с
Віншуем з залатым вяселлем!
Желаем в жизни Вам успеха,
Поменьше слез, побольше смеха,
Дорогу жизни подлинней
И много радости на ней.
Пусть каждый ваш обычный день
В прекрасный праздник
превратится.
И никогда печали тень
В ваших глазах не отразится!
І пры любым надвор'і няхай у вашай душы заўсёды свеціць сонца, радуюць павагай дзеці, унукі, праўнукі, увагай — блізкія, любімыя, сябры.
*З павагай і любоўю Зоя, Алеся, Косця з Маладзечна.*

■ **КОНКУРСЫ**



## Зарабі білеты ў кіно

**ПРАВІЛЬНЫ АДКАЗ** на мінулае пытанне не даў ніхто. Усе тэлефанаванні прысвячаліся незабыўнаму генсеку **Леаніду Брэжневу**. Толькі па адным разе назвалі **Шчолакава і Сталіна**. Між тым, два «Ролс-ройсы» меў **Уладзімір Ленін**. Пра гэта згадаў толькі **Юрый Юхневіч**. Праўда, ён не быў упэўнены ў колькасці аўтамабіляў (кажа, у Горках дакладна бачыў адзін). Аднак свой білет, лічу, ён выйграў сумленна.

**НАСТУПНАЕ ЗАДАННЕ**. Яно, хутчэй, на здагадлівасць, чым веданне гісторыі ці літаратуры. Некалі пры атрыманні магістратураў і размеркавання правінцыі для атрымання шэрагу прывілеяў жыхары Рыма мусілі мець тры, жыхары Італіі – чатыры, а правінцыялы – пяць. Чаго датычацца гэтыя лічбы?

Тэлефануйце 69667 у Маладзечне (па сераду ўключна) і прыходзьце па запрашальны білет на 2 асобы на прагляд фільма ў маладзечанскім кінатэатры «Радзіма».

**Лявон ІНЕТНЫ.**

■ **ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ**

**Прапануем вашай увазе новую рубрыку. Яе з'яўленне падказала каляспартыўнае жыццё, дзе здараюцца самыя анекдатычныя гісторыі і банальныя ляпы. Дасылайце цікавыя выпадкі, сведкамі якіх вы былі апошнім часам.**

Два матчы ФК "Маладзечна" у перапынку паміж турамі парадавалі і павесялілі балельшчыкаў.

Уваход на матч "сучасных" маладзечанцаў з камандай "Металург-91" яшчэ задоўга быў абвешчаны бясплатным. Дарэчы, так яно і атрымалася, толькі з невялікімі непаразуменнямі. За паўгадзіны да пачатку сустрэчы каля ўвахода вароты раптам закрыліся, а "вартавы" каля іх на пытанні балельшчыкаў упарта адказваў:

– Нічога не ведаю, уваход платны.

Раптам адкрылася каса, і там прапанавалі набыць білет за цану, як на звычайны матч чэмпіянату. Тут твары ў аматараў футбола сталі зусім сумныя, бо вароты на другім баку стадыёна былі адчыненыя. І там, значыць, праходзіць было можна.

На шчасце, дзівосы доўжыліся кароткі час. Неўзабаве па стадыёне аб'явілі, каб пусцілі балельшчыкаў на трыбуны.

Ізноў жа абяцалі бясплатны ўваход на таварыскую сустрэчу з "Жальгірысам". Тут абілечванне цягнулася трохі даўжэй – недзе да паловы першага тайма.

На пытанне, чаму трэба плаціць за ўваход, калі адваротнае абяцалі на матчы з "Металургам-91", кантралёры адказалі, што толькі дыктар па стадыёне можа такое сказаць.

Цікава на мінулым тыдні вядучыя спартыўныя выданні расказвалі пра навіны ў ФК "Маладзечна".

"Прессбол" і "Всё о футболе" пасля матча з "Металургам-91" паведалі, што на праглядзе знаходзіцца **Сяргей Бязручка**. Нават указалі год нараджэння – 1975. Так, Сяргей браў удзел у сустрэчы і нават забіў гол. Вось толькі не спартсмен ён, а спонсар клуба. Каб два мячы правёў, магчыма, у аснову адправілі б. **Тартоўскі** таксама ў гульні вызначыўся голам, але выданні прывыклі да забіўнога **Турчыновіча**, якога і прызначылі аўтарам гола. А "Всё о футболе" пайшла далей: выставіла на трансфер **Дзмітрыя Мігаса**. З чаго гэта раптам? Напэўна, мінскія журналісты запамінаюць толькі першую літару – Тартоўскі, Турчыновіч; **Млечка** (ён якраз "завязаў" з гульнёй №1 у свеце), Мігас...

### Чуткі

Аказваецца, **Аляксандр Хацкевіч** прыехаў у Мінск у пачатку верасня не за зборную гуляць, а ў азартныя гульні.

Футбаліст нацыянальнай зборнай краіны вырашыў крыху адпачыць і зайшоў у казіно. Ні на што не спадзяваўся, а выйшаў з 800 доларамі ў кішэні. "Куды іх падзець?" – спытаўся ў свайго сябра **Аляксандра Багайчука**, паўабаронцы ФК "Маладзечна". Той, зразумела, не разгубіўся.

Дарэчы, пра азартныя гульні. У карты гуляюць на грошы, пажаданні і да т. п.

Футбалісты ФК "Маладзечна" у прамежках паміж трэніроўкамі таксама калі-нікалі бавяць час за картамі. І не проста так, зразумела, гуляюць, а на... "Снікерсы". Ну, каб здароўе падтрымаць. Цікава было б паглядзець на рэакцыю прадаўца, у якога здаровыя мужыкі купляюць па 15–20 шакаладак запар.

**Мікалай ХАДАСЕВІЧ.**

■ **ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ**

## Закуска далікатэсная

**100 г абчышчаных грэцкіх арэхаў, 500 г тварагу, 100 г масла, часнок, соль і перац на смак.**

Растаўчы абчышчаныя грэцкія арэхі. Часнок расцерці з соллю. Тварог пасыпаць перцам, дадаць да яго распушчанае масла, грэцкія арэхі, часнок і добра перамяшаць да ўтварэння аднароднай масы.

Разам з закускай падаюцца злёгку падсушаныя ў духоўцы скрылькі белага хлеба.

## Ялавічына ў гаршчочку

**1 кг ялавічыны, перац, соль, 2–3 морквіны, 75 г мукі, 2 цыбуліны, 3–5 каранёў пятрушкі, 1 л мяснога булёну, 1–2 памідоры, 8–12 бульбін, 300 г грыбоў, сечаныя часнок, зяляніна пятрушкі і кропу на смак.**

Кавалкі ялавічыны адбіць, пасаліць, пасыпаць перцам, укачаць у муцэ з абодвух бакоў і абсмажыць. Затым пакласці мяса ў гаршчочак і заліць мясным булёнам. Дадаць пасераваныя з тлушчам памідоры, папярэдне пасмажаныя бульбу і грыбы, пасераваную гародніну (моркву, цыбулю, карані пятрушкі), заліць смятанай. Затым закрыць накрыўкай і тушыць да гатоўнасці.

Калі мяса будзе гатовае, дадаць соль на смак, дробна сечаныя часнок, зяляніну пятрушкі і кропу.

■ **ПРОСТА АНЕКДОТ**

Наркаман на прыёме ва ўрача. Той пытаецца:

– Малады чалавек, скажыце, які цяпер месяц?

Нарк паразважаў і адказаве:

– Май.

Урач:

– Ды не, цяпер верасень. Можа, скажаце, які будзе наступны месяц?

Нарк:

– Май.

Урач:

– Ды не. Наступны месяц – кастрычнік. А які месяц будзе за кастрычнікам?

Нарк:

– Май.

Урач усхопліваецца са стула і крычыць:

– Не! За кастрычнікам – лістапад! За лістападам – снежань! Потым студзень, за ім люты!

Нарк у задуменні:

– А што, мая не будзе?

# ЗНАЁМСТВЫ

Адказны, дасціпны вясковец, 45/175/74, з пачуццём гумару і ўласнай годнасці, пазнаёміцца з руплівай, уважлівай і пяшчотнай. Маладзечна-6, п/п МС 0604043.

42/172/86, адукацыя с/спец., жыллём забяспечаная, пазнаёмлюся з самастойным мужчынам 37-45 год для стварэння сям'і. Маладзечна-7, п/п МС0240658.

Спадзяюся сустрэць мужчыну, пяшчотнага, цярплівага, прадпрымальнага, які зможа пакахаць прыемнай паўнаты бландзінку, 42/172/85. Маладзечна-7, п/п МС0313673.

41/80//184. Для сур'ёзных адносін адгукніся добрая, чулая, сумленная жанчына, можна з дзецьмі. Маладзечна-1, 599257.

Малады мужчына 33/170/70 чакае званка ад самастойнай дзяўчыны 25-30 год. Т. у Маладзечне 62052.

■ **ХАВАЙСЯ Ў БУЛЬБУ**

## Грошы за праезд

Знаёмы сцвярджае, што на свае вочы бачыў гэты «прыкол» у маладзечанскім аўтобусе. Так ці не, але слухайце.

Раніца. Перапоўнены аўтобус. На няўпэўнена-хісткіх нагах стаіць непаголены дзяцюк у скуранай куртцы. Кулакі – што пудовыя гіры, цьмяна-неразумны позірк. Адзаду да яго прапіхваецца поўная, каля 50 год кандуктарка, торгае за рукаў і настойліва прапануе заплаціць:

– Білет патрэбны?

Дзяцюк відавочна не разумее, што яму прапануюць.

– Малады чалавек, грошы за праезд!

Тут ён пачынае рэагаваць. Павольна паварочваецца да кандуктаркі, факусіруе на ёй позірк:

– Грошы? За праезд?

Затым адцягвае шырэй кішэню сваёй курткі і выдае:

– Давай, сып сюды!

**Сямён РАБІНОВІЧ.**

**Звярніце ўвагу**

Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!

Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!

**Купон** **37**

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы».
Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў.
Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

рэгіянальная газета

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)





